«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info, в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


**№ 76 (4636)**

5 кастрычніка 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.





# Народная Воля

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## Падпішыцеся, калі ласка, на PDF-версію «Народнай Волі»!

Час ідзе, а праблема з доступам газеты **«Народная Воля»** (як, дарэчы, і іншых незалежных выданняў) да друкарань не вырашаецца. Таму даносім **свабоднае СЛОВА** ў электронным варыянце. А паколькі рэдакцыя не мае даходаў ад рэалізацыі газеты ў шапіках, выключаны іншыя формы папаўнення бюджэту, то вялікая зацікаўленасць у тым, каб было як мага больш падпісчыкаў на PDF-версію газеты. У выйгрышы ад гэтага не толькі рэдакцыя, але і вы, шаноўныя чытачы. З цікавымі, змястоўнымі матэрыяламі кожнага чарговага нумара «Народнай Волі» вы маеце магчымасць азнаёміцца значна раней, чым яны з'явяцца на сайце. Па-другое, калі мы адновім выданне газеты ў нармальным рэжыме, то для вас, сённяшніх падпісчыкаў PDF-версіі, будуць спецыяльныя бонусы.

Падпісацца на PDF-версію «Народнай Волі» можна на сайце ***belpressa.by***. Для гэтага трэба зайсці на сайт ***belpressa.by***, націснуць ўкладку ***«2021»*** і выбраць месяцы, на якія вы будзеце афармляць падпіску.

Асобна звяртаемся да тых, хто мае магчымасць праявіць адрасную дабрачыннасць. Ёсць некалькі спосабаў пералічыць грашовыя сродкі (даём рэквізіты ў рускамоўным варыянце) на рэдакцыйны рахунак.

1.Через ЕРИП:
СМИ – Н (просто буква) – «Народная Воля» – Добровольные взносы.
2.Через БАНК:
ИЧУП «Народная Воля». 220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а
р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933,
Код PJCBBY2X, ЦБУ 113 «Приорбанк» ОАО, г.Минск
УНП 100961759, ОКПО 37381505
Загадзя выказваем шчырую ўдзячнасць!

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА

# Рецепт Караника

Председатель Гродненского облисполкома, бывший министр здравоохранения Владимир Караник выдал рецепт лечения «белорусской болезни». Площадь для белорусов не способ преодоления проблем, возникающие трудности необходимо решать в трудовых коллективах, заявил г-н Караник в программе «Марков. Ничего личного» на телеканале ОНТ.

Принесло энтузиаста! Он с какой планеты в нашу реальность катапультировался?

Хотя, конечно, слышать трудовые коллективы – это идея хорошая, правильная. И официальная пропаганда сейчас старательно обходит тот факт, что остановить репрессии, прекратить насилие, провести честные президентские выборы требовали не только Светлана Тихановская, не только Латушко с Колесниковой, не какие-то «столичные протестуны», но и многочисленные трудовые коллективы. Более того – целые отрасли отечественной промышленности. И коль Владимир Караник руководит Гродненским регионом, то с Гродно и начнем вспоминать.

12 августа 2020 года было опубликовано письмо за подписью председателей профсоюзных первичек «Гродно Азота» и гродненского завода «Химволокно», которому предшествовали многочисленные собрания в трудовых коллективах. От имени более 13 тысяч человек – работников вышеназванных предприятий – лидеры официальных профсоюзов потребовали прекратить насилие, восстановить доступ к интернету (он, напомню, в дни после выборов был отключен) и предложили Генпрокуратуре провести проверку правильности процедуры подсчета голосов на выборах и несвоевременного обнародования протоколов по каждому избирательному участку в Гродно.

Услышала власть, лично вы, господин Караник, эти тысячи голосов?.. Отреагировали?..

Допустим, на этих конкретных предприятиях завелись бузотеры и потому требования решили игнорировать. Но спустя два дня обращение принимает уже республиканский профсоюз работников химической, горной и нефтяной отраслей промышленности. Выступает уже от имени более 140 тысяч человек!!!

Вот текст:

«...– *мы полностью осуждаем чрезмерное насилие со стороны сотрудников силового блока, которые должны обеспечивать порядок и защищать жизнь и здоровье мирных граждан;*

*– мы настаиваем на проведении публичного расследования о применении чрезмерной силы сотрудниками силового блока, привлечь к ответственности виновных;*

*– мы призываем вышестоящие суды, прокуратуры городов и районов рассмотреть все заявления об опротестовании решений судов, провести изучение всех имеющихся материалов, дополнительный и объективный опрос свидетелей, неукоснительно отменить решения об аресте и наложении штрафов;*

*– мы требуем не допускать применения дисциплинарных взысканий и увольнения работников за совершение проступков, не связанных с трудовой деятельностью;*

*– мы обращаемся к местным органам власти оказать необходимую материальную и психологическую помощь всем пострадавшим от действий сотрудников силового блока;*

*– мы призываем обеспечить работникам предприятий возможность ознакомиться с итоговыми протоколами избирательных комиссий, дать правовую оценку всем фактам нарушений, проверить правильность подсчета голосов;*

*– мы выступаем за бесперебойное обеспечение работы сети интернет как одного из важнейших источников эффективности работы многих организаций, а также получения оперативной информации о событиях, происходящих на предприятиях отрасли;*

*– мы предлагаем диалог и обсуждение имеющихся проблемных вопросов, в том числе с привлечением широкого круга средств массовой информации, вместо «эскалации насилия!»*

Услышали? Остановили, прекратили, наказали, голоса пересчитали, начали диалог?..

Не про нашу власть! Не про таких, как Караник! Потому что всё произошло с точностью до наоборот.

А ведь с подобными требованиями выступил не только официальный профсоюз Белхимпрома, но и профсоюз энергетиков, профсоюз работников транспорта и коммуникаций, профсоюз работников торговли... Вот, к примеру, что требовал профсоюз работников культуры, информации, спорта и туризма: «*Мы призываем прекратить безосновательное задержание и избиение мирных граждан, обеспечить справедливое и беспристрастное рассмотрение дел всех задержанных, немедленно освободить невинных людей. Обращаемся к правоохранительным органам быть человечными, помнить, что у них тоже есть дети, жены, пожилые родители, которые не заслуживают насилия и невозможности высказать свое мнение...*»

А теперь вопрос господину Каранику. Какое из этих требований власть услышала? Какое требование выполнила? Какого размера должен быть трудовой коллектив, чтобы наверху отреагировали не спецоперацией по поиску врагов, нейтрализации и посадке, а цивилизованно?

Завод – мало, отрасль – мало, несколько отраслей – мало... Сколько тогда достаточно? Как люди могут высказать свои требования? Что они должны сделать, чтобы их мнение не игнорировали, а уважали?

Я знаю традиционный агитпроповский ответ-заготовку: выборы – идите и голосуйте. Но в том-то и проблема, что к белорусским выборам нет доверия, о чем дружно и публично заявляли многие трудовые коллективы и целые отрасли. Это и есть тот самый тупик, который заставил людей выйти на протесты. На площадь, как заявил Караник, хотя правильно говорить площадИ, потому что их были сотни (если не тысячи) по всей стране.

Владимир Степанович Караник – онколог, кандидат медицинских наук, бывший министр здравоохранения. Его глубокомысленное заключение по итогам тяжелейшего, трагичного, страшного послевыборного года растиражировали все государственные СМИ. Хотя со своим рецептом достижения в Беларуси общественного согласия Караник напоминает тех дремучих мракобесов, которые больным людям советуют не лечиться, а «возлюбить свою хворь».

Это всё равно как если бы смертельно больному он, доктор, вместо действенного лекарства предложил плацебо – этакую инъекцию раствора поваренной соли – с расчетом на чудо.

Не помогает. Не помогло. Потому что знаете, что в нашей ситуации чудо? Чудо, что белорусы более двадцати лет терпели такое к себе отношение.

РЭПРЭСІІ

Барыс ПЯТРОВІЧ:

# «Ні Сталін, ні Брэжнеў, ні Андропаў не закрылі Саюз пісьменнікаў, і толькі беларуская ўлада зрабіла гэта»

*Вярхоўны суд з падачы Міністэрства юстыцыі 1 кастрычніка скасаваў дзяржаўную рэгістрацыю найстарэйшай творчай арганізацыі ў краіне – Саюза беларускіх пісьменнікаў. Ён праіснаваў 87 гадоў і ўвесь час быў апірышчам і абаронцам беларускай культуры і мовы. Чым ён стаў замінаць сённяшняй уладзе? Адразу пасля абвяшчэння судовага выраку я пагутарыў са старшынёй ліквідаванага саюза **Барысам ПЯТРОВІЧАМ**.*



**– Барыс, што ўсё ж стала фармальнай прычынай ліквідацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў? Якія такія правіны СБП дапусціў, што Міністэрства юстыцыі не змагло з імі змірыцца?**

– Усё настолькі проста і прымітыўна было зроблена, што ажно вусцішна... Фармальнай падставай для ліквідацыі СБП сталі два папярэджанні, вынесеныя на працягу ўсяго аднаго тыдня – 9 і 14 ліпеня. Па кожным нам быў дадзены тыднёвы тэрмін, каб выправіць заўвагі, але мы не змаглі гэта зрабіць. Першае папярэджанне мы атрымалі 16 ліпеня, а 14-га ў нашым офісе адбыўся ператрус, праведзены супрацоўнікамі Следчага камітэта. У выніку офіс быў апячатаны, доступу да дакументаў, якія засталіся там, мы не мелі. Другое папярэджанне было вынесена за тое, што мы своечасова не прадставілі Мінюсту інфармацыю аб дзейнасці СБП за тры апошнія гады. Ліст аб гэтым мы атрымалі 13 ліпеня пасля абеду, а падаць інфармацыю неабходна было да канца гэтага ж дня. Падрыхтаваць за паўдня ўвесь аб'ём запрошаных дакументаў (а там было аж 27 пунктаў) і адвезці іх у Мінюст было проста фізічна немагчыма.

**– Вы неяк інфармавалі Мінюст пра гэта?**

– Так, мы адразу ж накіравалі ў міністэрства ліст з просьбай даць нам усяго адзін дзень адтэрміноўкі. Мы працавалі 13 ліпеня да позняга вечара, рыхтуючы неабходныя дакументы, а калі назаўтра прыйшлі ў офіс, каб скамплектаваць іх і адвезці ў Мінюст, з'явіліся прадстаўнікі Следчага камітэта і апячаталі памяшканне. Дакументы засталіся за зачыненымі дзвярыма. Але, калі б мы нават і змаглі адправіць 14 ліпеня запытаную інфармацыю, то ўсё роўна не паспелі б. Бо ўжо раніцай таго ж дня Мінюст вынес нам другое папярэджанне. Зразумела, што і яго выправіць мы не змаглі, пра што і паведамілі Мінюсту ў лісце. Але Мінюст 27 ліпеня накіраваў у Вярхоўны Суд пазоў аб ліквідацыі нашага саюза. Мы паспрабавалі аспрэчыць другое папярэджанне ў Вярхоўным судзе, але суддзя нашы доказы і абгрунтаванні не прыняў і не ўлічыў.

**– Атрымліваецца, што з боку ўлады было зроблена ўсё, каб СБП не змог выканаць яе патрабаванні?**

– Выходзіць, так. Хочаш не хочаш, а падумаеш, ці не стаіць за гэтым элементарны загад разабрацца з арганізацыяй, якая камусьці замінае. СБП за ўсю сваю гісторыю практычна не меў прэтэнзій з боку дзяржавы. Мы працавалі, выконваючы ўсе палажэнні Канстытуцыі і свайго статута. А тут адразу два папярэджанні запар і ператрус з канфіскацыяй камп'ютараў і дакументаў...

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

ЧУЛІ?

**Толькі 6,4 працэнта насельніцтва Беларусі мелі ў першай палове 2021 года даход на чалавека больш за 505 долараў (у эквіваленце).**

БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

## Приедет ли Путин в Минск?

*Формат участия **Владимира Путина** в саммите стран СНГ пока не определен.*

Так сказал вчера его пресс-секретарь **Дмитрий Песков**.

Ранее А.Лукашенко говорил о договоренностях с Путиным обсудить конкретные направления развития сотрудничества двух стран в ходе саммита СНГ, который запланирован в Минске ориентировочно на 15 октября.

12 сентября Песков подтвердил, что Путин намерен посетить Минск.

ЭКОНОМИКА

## Кредиты могут подорожать

*В Беларуси может вырасти ставка рефинансирования, к которой привязаны все кредиты.*

По прогнозам Евразийского банка развития, это может произойти до конца года.

Сейчас этот показатель составляет 9,25% годовых.

В этом году ставка повышалась дважды: в апреле и июле.

Народная Воля http://www.nv-online.info
5 КАСТРЫЧНІКА 2021 г.

З-ЗА КРАТАЎ

## Леанід СУДАЛЕНКА:
# «Прапаноўвалі напісаць прашэнне аб памілаванні...»

*Больш за месяц працягваецца судовы працэс над гомельскім праваабаронцам.*



Палітвязні **Леанід Судаленка** і **Тацցяна Ласіца** знаходзяцца за кратамі ў гомельскім СІЗА амаль дзевяць месяцаў.

З 3 верасня ў судзе Цэнтральнага раёна Гомеля ў закрытым рэжыме адбываецца суд над імі і яшчэ адной валанцёркай, **Марыяй Тарасенка.** Усіх абвінавачваюць у арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак, навучанні і падрыхтоўцы асоб для ўдзелу ў такіх дзеяннях, а таксама іх фінансаванні або іншым матэрыяльным забеспячэнні.

Леанід Судаленка піша ў сваіх лістах на волю, што ў матэрыялах справы – 80 тамоў. Адна з прычын, па якой суд зрабілі закрытым, – гэта *«бяспека сведак»*, але, як адзначае праваабаронца, *«самі сведкі ні сном ні духам»*.

Усяго па крымінальнай справе было дапытана каля 200 чалавек, на судзе – больш за 60 сведак. У асноўным гэта тыя, хто звяртаўся да праваабаронцы па прававую дапамогу. Леанід на судзе падаў не менш за дзевяць хадайніцтваў – усе яны былі адхілены.

*«Усе сведкі ў судзе сказалі праўду, і гэта галоўнае, – напісаў Леанід. – Прыемна чуць, як людзі, якія прыходзяць у суд, кажуць «дзякуй», звяртаючыся да мяне ў клетку. І гэта нягледзячы на заўвагі суда».*

Паводле прагнозаў Леаніда Судаленкі, судовае рашэнне можа быць вынесена ў сярэдзіне кастрычніка. На апраўдальны прысуд ён не разлічвае, таму *«ў планах падаць апеляцыю, якая зойме два-тры месяцы. А пад Новы год ці пасля яго з тэрмінам 1,5 года прыйдзецца часова змяніць месца жыхарства...»*

Праваабаронца распавёў таксама, што прапанова аб памілаванні прыходзіла не толькі яму.

*«І мне, і Тацццяне прыходзілі лісты з прапановай аб памілаванні, але гэта не варыянт, бо трэба прызнаць віну, – паведаміў Леанід Судаленка. – Значыць, мне трэба будзе прызнаць, што 20 гадоў я здзяйсняў злачынствы, займаючыся праваабарончай дзейнасцю. Натуральна, мы нічога не пісалі. Няхай яны самі скажуць, што праваабарона – гэта злачынства».*

Сяргей ЗАБЛОЦКІ.

КОРАТКА

### За заклікі да санкцый – да 12 гадоў турмы

*Старшыня парламенцкай камісіі па нацыянальнай бяспецы Алег Белаконеў прапануе ўвесці змены ў Крымінальны кодэкс і крымінальную адказнасць за заклікі да санкцый.*

Так, за заклікі да звяржэння канстытуцыйнага ладу, захопу ўлады, заклікі да тэрактаў, у тым ліку і прымянення абмежавальных санкцыйных мер да дзяржавы, фізічных і юрыдычных асоб, караць пазбаўленнем волі да 6 гадоў. За заклікі да санкцый праз інтэрнэт, калі яны пацягнулі цяжкія наступствы, – да 12 гадоў пазбаўлення волі.

### Вольга Чамаданава цяпер ідэолаг, а не прэс-сакратар МУС

*Яна ачоліла галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы і па справах моладзі Мінгарвыканкама.*

Пра свой сыход Чамаданава паведаміла ў афіцыйным тэлеграм-канале МУС, які, між іншым, працягне сваё існаванне ў іншым фармаце.

### Замест урокаў – эвакуацыя...

*Учора ў Беларусі зноў эвакуіравалі школы і іншыя навучальныя ўстановы: на электронную пошту некаторых з іх паступілі паведамленні аб закладзеных выбуховых прыладах.*

Аналагічная сітуацыя была ў мінулую пятніцу: у Мінску і некаторых іншых гарадах краіны таксама праводзілі экстранную эвакуацыю. Але, дзякуй Богу, выбуховак не знайшлі.

Добра было б, каб праваахоўныя органы як мага хутчэй знайшлі гэтых мінёраў, якія правакуюць залішнюю напружанасць у грамадстве. І пакаралі па ўсёй строгасці закона.

**Да ведама:** за заведама ілжывае паведамленне аб небяспецы прадугледжана крымінальная адказнасць і пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам ***да 7 гадоў.***

### Наступныя выбары ў Беларусі будуць толькі ў 2023 годзе

*Выбары ў мясцовыя Саветы пераносяцца на паўтара года наперад.*

Учора, 4 кастрычніка, дэпутаты Палаты прадстаўнікоў прагаласавалі за ўвядзенне Адзінага дня галасавання. Гэта значыць, што паўнамоцтвы дэпутатаў мясцовых Саветаў працягнуты да наступных парламенцкіх выбараў.

Выбары ў мясцовыя Саветы мусілі адбыцца не пазней за 18 студзеня 2022 года. А наступныя выбары ў парламент – не пазней за 5 лістапада 2023 года.

### Шукаеце працу?

*Магчыма, знойдзеце добрую вакансію на электронным кірмашы.*

На сайце **http://e-vacancy.by** 7 кастрычніка з 10.00 да 12.00 пройдзе электронны кірмаш вакансій, у тым ліку для моладзі.

Як кажуць у камітэце па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама, можна будзе ў рэжыме рэальнага часу азнаёміцца з прапанаванымі вакансіямі і атрымаць запрашэнне на сумоўе.

Вядома, што свабодныя працоўныя месцы ёсць на «Кераміне», МАЗе, МТЗ, МЗКТ і іншых буйных прадпрыемствах краіны.

Галіна РУТ.

УЗНАГАРОДА

### Ці атрымае Святлана Ціханоўская Нобелеўскую прэмію міру?

*У Швецыі і Нарвегіі пачаўся Нобелеўскі тыдзень.*

Учора стала вядома, што Нобелеўскую прэмію ў галіне фізіялогіі і медыцыны атрымалі **Дэйвід Джуліюс** і **Ардэм Патапуцян** за адкрыццё рэцэптараў тэмпературы і дотыку.

Сёння, 5 кастрычніка, аб'явяць імя лаўрэата прэміі па фізіцы, у сераду – па хіміі, у чацвер – па літаратуры. Пасля ў Нарвегіі аб'явяць, хто атрымае Прэмію міру. Адна з кандыдатак на Нобелеўскую прэмію міру – **Святлана Ціханоўская**.

РЭПРЭСІІ

## Барыс ПЯТРОВІЧ:
# «Ні Сталін, ні Брэжнеў, ні Андропаў не закрылі Саюз пісьменнікаў, і толькі беларуская ўлада зрабіла гэта»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

**– Як рэагаваў суддзя Вярхоўнага суда Ігар Мільто (менавіта ён прыняў канчатковае рашэнне) на вашы аргументы – пра тое, што патрабаванні Мінюста вы выканаць проста не маглі?**

– Усе нашы доказы не былі прыняты. Мы павінны былі памерці, але выканаць загады Мінюста! А нейкія перашкоды суддзя палічыў нязначнымі. Дадам яшчэ, што мы і ў Следчы камітэт звярталіся, каб нам далі магчымасць патрапіць у офіс, каб перадаць дакументы ў Мінюст. З СК прыйшоў адказ: гэта немагчыма, бо працягваюцца следчыя дзеянні. Мы звярталіся таксама ў Мінскую пошту, і там пацвердзілі, што ліст з загадам прадставіць інфармацыю аб дзейнасці СБП мы атрымалі толькі ў другой палове 13 ліпеня. Дарэчы, прадстаўнік Мінюста гэта не адмаўляў, але не змог патлумачыць, чаму гэты ліст, падпісаны 6 ліпеня, толькі 8 ліпеня трапіў у паштовае аддзяленне самога Мінюста і толькі тады быў адпраўлены нам.

**– Міністэрства яго спецыяльна на два дні прытрымала?**

– Магчыма. І менавіта гэтых двух дзён нам і не хапіла. Але прадстаўнік Мінюста на першым судовым пасяджэнні сказаў, што гэта не іх, а нашы праблемы.

**– У пракурора цягам усяго трохгадзіннага разбору справы не ўзнікла ніводнага пытання ні да адказчыка, ні да адваката. Ён проста ў канцы пасяджэння зачытаў падрыхтаванае загадзя рашэнне аб ліквідацыі СБП. У прысутных склалася ўражанне, што прысуд быў вынесены раней і зусім не ў Вярхоўным судзе.**

– Не магу гэтага сцвярджаць, але менавіта так палічыла большасць прысутных у зале суда. Той факт, што за апошні час у Беларусі было ліквідавана больш за сто грамадскіх арганізацый, як кажуць, гаворыць сам за сябе. Відаць, недзе ёсць спіс арганізацый, з якімі варта «разабрацца», і лёс гэтых арганізацый прадвызначаны. Што праўды нам не дамагчыся, было зразумела з першых крокаў. Але мы вырашылі прайсці гэты шлях да канца, каб потым не шкадаваць, што мы маглі адстаяць свае правы на існаванне і далейшую працу, але не зрабілі гэтага.

**– Аднойчы Саюз беларускіх пісьменнікаў ўлада ўжо спрабавала ліквідаваць – у 2006 годзе. Тады арганізацыю ўдалося адстаяць. І больш як 14 гадоў СБП дзейнічаў. Як ты лічыш, чым у 2021 годзе ён стаў замінаць уладзе? Ды так замінаць, што давялося яго ліквідаваць?**

– Так, у 2006 годзе, расчышчаючы глебу пад новаствораны прыўладны Саюз пісьменнікаў Беларусі, Міністэрства юстыцыі спрабавала ліквідаваць наш саюз. І тады прычыны былі надуманыя – настолькі, што суд не прыслухаўся да Мінюста і нас апраўдаў. Тады яшчэ ў краіне захоўваліся рэшткі хоць нейкай законнасці і была хоць нейкая незалежнасць судовых органаў. На той суд, памятаю, прыйшлі ўсе тагачасныя народныя пісьменнікі (сёння, на жаль, іх ужо няма побач з намі), прыйшлі амбасадары еўрапейскіх краін (цяпер ім забаронена ўдзельнічаць у судах). І разам мы адстаялі наша права на існаванне.

**– Гэта ж тады спынілася сэрца ў Генадзя Бураўкіна?**

– Не ў судзе, а падчас папярэдняга разбіральніцтва ў Мінюсце ў Генадзя Мікалаевіча здарыўся сардэчны прыступ. І толькі своечасовая дапамога сябра-пісьменніка Алеся Масарэнкі ўратавала яго, бо ў міністэрстве не аказалася нават элементарнай аптэчкі... Генадзь Мікалаевіч пасля таго пражыў яшчэ восем гадоў, напісаў шмат новых твораў. Ён быў для нас чалавекам і сябрам, да якога можна было звярнуцца ў любы момант, атрымаць падтрымку і параду. Гэтым разам сітуацыя амаль паўтарылася: падчас судовага пасяджэння стала кепска Уладзіміру Някляеву, Язэпу Янушкевічу і Уладзіміру Марозу, і яны вымушаны былі пакінуць залу.

**– Але ўсё ж чым перашкаджала ўладзе найстарэйшая творчая арганізацыя, заснаваная яшчэ ў 1934 годзе пры ўдзеле Янкі Купалы і Якуба Коласа?**

– Відаць, ужо адным сваім існаваннем... Заўважу, што пісьменнікам ва ўсе часы і ва ўсіх дзяржавах дазвалялася крыху больш, чым іншым. Яны маглі крытыкаваць тое, што ім не падабалася, мець сваю думку, адрозную ад прыўладнай. Ва ўсе гады, нават у самыя змрочныя, былі ў былым СССР іншадумцы. Дзяржава змагалася з імі, але не з саюзамі – пісьменнікаў, мастакоў, творцаў увогуле. Ні Сталін, ні Брэжнеў, ні Андропаў не закрылі Саюз пісьменнікаў, і толькі беларуская ўлада зрабіла гэта.

**– СБП праводзіў вялікую асветніцкую і культурніцкую працу (у тым ліку ў рэгіёнах), уручаў літаратурныя прэміі, ладзіў фестывалі. З ліквідацыяй саюза чаго ў нашай краіне не стане?**

– Нічога асабліва не зменіцца. Бо пісьменнікі засталіся. Яны і надалей будуць пісаць і друкаваць свае творы. Сёння кожны можа змясціць напісанае ў інтэрнэце, і чытачоў у яго будзе больш, чым накладкнігі. Нас не трэба вучыць, за апошнія дваццаць гадоў мы шмат чаму навучыліся з «дапамогай» дзяржавы. Па-ранейшаму будуць арганізоўвацца літаратурныя вечарыны, праводзіцца фестывалі, уручацца прэміі... Мы раней рабілі гэта на грамадскіх пачатках і будзем працягваць. Толькі ўжо не ад імя СБП, а прыватна. Як у свой час рабілі Купала і Колас, Ластоўскі і браты Луцкевічы. Вядома, не хацелася б у суверэннай дзяржаве ў XXI стагоддзі вяртацца ў дарэвалюцыйныя часы. Але што зробіш, калі такі наш лёс, калі такі лёс беларускага народа: ісці да сябе, да свайго – да Беларусі (як сказаў незабыўны Ніл Гілевіч) – праз штучныя перашкоды, якіх не павінна было б быць.

**– Відаць, прыватна арганізоўваць нейкія мерапрыемствы будзе ўсё ж значна цяжэй.**

– А нам і раней не было лёгка. Ёсць жа прыклады працы арганізацый, ліквідаваных раней. Скажам, беларускі ПЭН-цэнтр на чале са Святланай Алексіевіч і Тацццянай Нядбай працягвае свае праекты, часам яшчэ ў большым аб'ёме, чым раней. Практычна ад усіх арганізацый, якія дзяржава знішчае, мы чуем, што яны будуць працягваць працаваць, толькі ў іншым фармаце. Чыноўнікі ніяк не хочуць зразумець, што па вялікім рахунку для нас нічога не змяняецца, яны не вераць, што людзі могуць працаваць не за грошы, а за ідэю. Яны дарэмна лічаць, што, пазбавіўшы нас афіцыйных месцаў працы, прымусяць нас замоўкнуць, зашыцца па кутах. Нам няма чаго губляць. Мы не мелі ніякіх выгод. З усіх саступак дзяржавы мы мелі толькі адну: сябры нашага саюза не лічыліся так званымі дармаедамі. Што ж, цяпер некалькі дзясяткаў пісьменнікаў, у тым ліку і я, займеюць гэтае «гордае» званне.

**– Адвакат СБП у сваім выступленні ў судзе параўнала ліквідацыю арганізацыі з вышэйшай мерай – расстрэлам. На што прадстаўнік Мінюста запярэчыў: расстраляны ўваскрэснуць не можа, а пісьменнікі могуць сабрацца і заснаваць новую арганізацыю. Ці збіраецца кіраўніцтва СБП штосьці рабіць у гэтым кірунку?**

– Думаю, не адразу, але з цягам часу такое пытанне ўзнікне. І няхай не ўсе цяперашнія нашы 470 сяброў, а 150 ці 200 з іх аб'яднаюцца і адновяць саюз. Але не пры цяперашняй уладзе. Не для таго яна ліквідоўвала саюз, каб дазволіць аднавіць яго. Але, калі зменіцца сітуацыя, Саюз пісьменнікаў, у які ўваходзілі Быкаў і Адамовіч, Гілевіч і Мележ, Караткевіч і Брыль, Шамякін і Чыгрынаў, Барадулін і Бураўкін і яшчэ дзясяткі класікаў нашай літаратуры, чые творы складаюць залаты фонд нашай культуры, абавязкова будзе адноўлены.

**– На пасяджэнні ў Вярхоўным судзе прысутнічалі каля двух дзясяткаў пісьменнікаў. Шмат хто з сяброў саюза знаходзіцца ўжо ў вельмі паважным веку і чакаў судовага рашэння дома. Скажам, Анатоль Вярцінскі, Віктар Казько, Васіль Зуёнак... Калі б так сталася, што ўсе 470 чальцоў СБП пасля вынясення прысуду сабраліся ў адным месцы, што б ты ім сказаў?**

– Сказаў бы, каб берaглі сваё здароўе і не дужа шкадавалі і перажывалі з-за таго, што дзяржава ліквідавала наш СБП. Бо не саюз нас аб'ядноўваў, а любімая справа – літаратура. І права пісаць у нас ніхто ніколі не адыме. Як і права жыць і працаваць дзеля роднай Беларусі і набліжаць той дзень, калі наша краіна стане сапраўды дэмакратычнай і вольнай.

Міхась СКОБЛА.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
5 КАСТРЫЧНІКА 2021 г.

ЧУЛІ?

## Навучанне ў прыватнай беларускай школе – 5 тысяч еўра ў год

*У Вільнюсе адкрыліся першыя ў Літве прыватныя беларуская школа і дзіцячы садок, дзе дзеці могуць займацца на рускай і беларускай мовах.*

За апошні год многія беларусы вымушаны былі з'ехаць за мяжу, каб не патрапіць пад рэпрэсіі, шмат хто з іх пераехаў у Літву.

Зараз стала вядома, што ў Вільнюсе адкрыліся прыватныя беларуская школа і дзіцячы садок. Набор навучэнцаў у школу толькі-толькі пачаўся, класы яшчэ не запоўнены. Зараз праводзяцца першыя пробныя заняткі, хаця выкладчыцкі састаў цалкам сфарміраваны. Практычна ўсе выкладчыкі – грамадзяне Беларусі.

Навучанне ў школе платнае – каля 5 тысяч еўра ў год, але кіраўніцтва ўстановы марыць знайсці фонды і стыпендыі, якія дапамаглі б зрабіць навучанне больш танным.

**Віктар ШПАК.**

ПАДЛІЧЫЛІ

## 924 дні за кратамі

Толькі за верасень за рэалізацыю права на мірны сход і свабоду выказвання меркаванняў суддзі прысудзілі беларусам не менш як 17 штрафаў на агульную суму 1150 базавых велічынь (33,35 тысячы рублёў) і не менш за 64 адміністрацыйныя арышты агульнай працягласцю 924 сутак.

Такія лічбы агучваюць праваабаронцы.

ГДЕ ЖЕ ВЫ ТЕПЕРЬ?

# Дмитрий УСС: «Перемены придут из России...»

*«Народная Воля» поинтересовалась, чем сегодня занимается предприниматель **Дмитрий Усс**, который в 2010 году принимал участие в президентской гонке.*



**– Дмитрий Иванович, как-то вы совсем выпали из информационного поля...**

– Так другие политики уже вышли на первый план, другие лица! Каждому – свое время.

**– Вы уже совсем вне политики?**

– У нас в политике по большому счету всегда был только один человек. Остальные пытались туда войти, но им не дали такой возможности. Просто войти в политику здесь ни у кого не получится, надо искать какие-то нестандартные ходы.

**– Как оцениваете то, что сейчас происходит в стране?**

– Ну, всё то же самое, что было и десять, и пятнадцать лет назад. Я не вижу, чтобы что-то поменялось. Просто пришли новые люди с новыми амбициями. А по голове они получают точно так же, как и мы в свое время. И под уголовные дела попадают, и в тюрьмы. Всё, как и было.

**– Вы когда-то мне на вопрос «Не жалеете, что в один прекрасный момент пошли в политику?» ответили: «Жалею, что был глупым»...**

– Я просто не знал, что за всем этим последует. Думал, в нашей стране люди на самом деле могут что-то изменить, решить. Но оказалось, что это не так. Поэтому признаю: был слишком наивен. Вся энергия, всё здоровье, все средства, которые были мной потрачены на достижение цели, – это было не то чтобы впустую... Это опыт. Хоть и говорят, что на ошибках учатся, но лучше всё же учиться не на своих, а на чужих.

**– Как у вас со здоровьем? Спрашиваю, потому что вы и в тюремной больнице в критическом состоянии были, и после колонии долго восстанавливались...**

– Лучше, чем раньше. Но я много занимаюсь собой. А еще собаки, охота, рыбалка – будем говорить, отвлекаюсь от действительности.

**– Коронавирус не зацепил вас?**

– Слава Богу, нет. Прививку не делал.

**– Было время, когда вы мечтали создать партию трудящихся...**

– Ага, я и президентом тоже мечтал стать. Это из одной и той же песни *(смеется)*.

Не пришло еще время для перемен. Смотрите на Россию, на Москву – оттуда все перемены придут, и в Беларусь в том числе. Думаю, еще лет пять Путин точно будет править. Так что делайте выводы. Как говорит экономист Ярослав Романчук, запасаемся попкорном, бережем нервы и здоровье.

Кстати, удивился, когда узнал, что Романчук в Киев уехал. Мы с ним в последнее время почти каждый день общались...

**– К нему с обыском приходили, и буквально на следующий день он принял решение уехать.**

– Видимо, решил не рисковать...

Я не осуждаю, но и не поддерживаю тех, кто сейчас принимает решение уехать из страны. Это личный выбор. Каждый устраивает свою судьбу как может. Кто-то, кто более лояльный, приспособится. А кто не может – уезжает.

**– Одно время вы дружили с Николаем Статкевичем. Сейчас письма ему пишете?**

– В последнее время нет. А когда был на свободе – конечно, мы общались.

Николай Викторович – он же динозавр в политике! Он прекрасно знал, чем всё закончится, поэтому и шел напролом. Он, можно сказать, как Жанна д'Арк для Беларуси. Дочки у него в Германии, через детей надавить на него практически невозможно. Поэтому ему в этом плане, может, и легче, чем некоторым другим...

**– Если не секрет, чем сейчас на жизнь зарабатываете? Знаю, что еще пару лет назад строительством занимались...**

– Потихонечку зарабатываю, что-то строил. Подробно не хочу рассказывать. Занимаюсь коммерческими проектами.

Строительство сейчас – дело рисковое и не очень актуальное. Вы же видите, что творится: цены растут, доходы у людей падают, все шиворот-навыворот. Строители многие уезжают из Беларуси – или в Польшу, или в Россию, здесь мало кто остается.

**– Как у вас в личной жизни? Дети-внуки?**

– Внуков еще нет! Младший сын уже в пятый класс пошел. Старший закончил университет – истфак, получал стипендию. Правда, сейчас не по специальности работает – сказали, избыток учителей, он оказался не нужен. Но работу нашел. Так что всё более-менее у меня. И слава Богу!

**Марина КОКТЫШ.**

### Из личного дела

*Дмитрий Усс родился 10 июня 1971 года в Минске. Окончил Гродненский университет по специальности «правоведение». Работал рабочим на заводе «Интеграл», строителем, занимался мелким бизнесом.*

*В 1992 году стал директором издательства ОДО «Тривиум», которое издает большинство белорусских атласов и карт. В 1999–2003 годах был депутатом Минского городского Совета. В 2003-м и 2006 годах также пытался баллотироваться, но не был зарегистрирован кандидатом. В 2010 году принимал участие в выборах в местные Советы депутатов, но проиграл, набрав, по данным избирательной комиссии, 38% голосов.*

*Дмитрий Усс был признан виновным в организации массовых беспорядков в Минске 19 декабря 2010 года и осужден на пять с половиной лет лишения свободы в колонии усиленного режима, получил инвалидность, был освобожден 1 октября 2011 года на основании указа Александра Лукашенко о помиловании. По словам Усса, прошения о помиловании он не подавал.*

*Через некоторое время после выборов Дмирий Усс закрыл свой издательский бизнес и переключился на инвестпроекты и возведение административных зданий.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# Чаму «залёг на дно» Віталь Рымашэўскі?

***Падкажыце, куды знік адзін з сустаршыняў аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віталь Рымашэўскі? Раней быў вельмі актыўным і публічным, а апошнім часам быццам залёг на дно... Дык што здарылася?***

**Валерый ПЯТРОВІЧ, Мінскі раён.**

«Народная Воля» звязалася з палітыкам і распытала ў яго не толькі пра жыццё-быццё. Калі коратка: развёўся, на некаторы час з'ехаў з Беларусі – у камандзіроўку, але палітыку не кінуў.



**– Віталь, наколькі я зразумела, вы зараз не ў Беларусі.**

– Недзе каля месяца я знаходжуся па-за межамі краіны, але я не ў эміграцыі, гэта проста працоўны візіт. Справа ў тым, што цяпер з пераездамі вельмі складана, гэта звязана і з каранцінам таксама. Нядаўна я быў у Брусэлі – сустракаўся з нашымі замежнымі партнёрамі і не толькі. З Беларусі зараз вельмі складана і нават небяспечна весці міжнародную камунікацыю.

**– У сваіх інтэрв'ю вы не раз падкрэслівалі, што з'язджаць не збіраецеся. Але цяпер, калі адбываецца татальная зачыстка, магчыма, нейкія акцэнты змяніліся?**

– У Беларусі пакуль аднымі з апошніх засталіся незалежныя прафсаюзы – атакуюць іх актывістаў, але арганізацыі па-ранейшаму могуць легальна працаваць. Таксама ёсць палітычныя партыі, якія маюць афіцыйную рэгістрацыю.

У прынцыпе, пакуль ёсць хоць нейкія легальныя магчымасці працы і ўнутры краіны ёсць партнёры, з якімі можна весці супольна рэалізоўваць, беларускія хрысціянскія дэмакраты будуць гэта рабіць. Многія нашы актывісты знаходзяцца ў Беларусі. І мая паездка ніяк не звязана з эміграцыяй.

Я не асуджаю тых, хто прымае рашэнне змяніць краіну. Ведаю, што такіх людзей шмат. Але сённяшняя эміграцыя – гэта зусім не ўцёкі. Нельга сказаць, што ў дадзеным выпадку Беларусь нешта страчвае – яна проста пашырае свае межы. І Беларусь у думках і сэрцы тых, хто з'ехаў, кожны дзень. Гэтыя людзі таксама шмат робяць для краіны – праводзяць акцыі, ахвяруюць грошы...

Пры гэтым, на мой погляд, важна, каб асноўнае права голаса мелі тыя, хто застаўся ў Беларусі, каб менавіта яны вырашалі, што рабіць, а тыя, хто з'ехаў, не дыктавалі ім свае ўмовы. Бо часам раздаюцца заклікі да нейкіх дзеянняў, якія вымагаюць ахвяр, але яны ніяк не абгрунтаваны – ні бягучай сітуацыяй у краіне, ні гатоўнасцю людзей да нейкіх акцый.

На дадзены момант я пакуль яшчэ бачу магчымасці легальнай працы ў Беларусі. Я адзін з апошніх палітыкаў, які застаецца ў краіне. Але, напэўна, рана ці позна перад кожным беларускім палітыкам паўстае гэты выбар – турма альбо эміграцыя.

**– Аргкамітэт па стварэнні партыі «БХД» сёння раскіданы – Севярынец у турме, Кавалькова ў Вільнюсе, вы таксама за мяжой...**

– Беларускія хрысціянскія дэмакраты заўсёды былі актыўнымі ўдзельнікамі амаль усіх палітычных праектаў. Але сёння многае з таго, што мы робім, не агучваецца, бо ўлады могуць схапіцца за любую дробязь і распачаць чарговую хвалю ціску ці крымінальнага пераследу тых, хто знаходзіцца ў Беларусі. Але, паверце, няма ніводнай ініцыятывы, якая адбывалася б без нашага ўдзелу.

Мы разумеем, што зараз час не для піяру, а для дзеянняў.

Аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» – гэта яшчэ не арганізацыя, таму нашы прававыя дзеянні таксама абмежаваны. І, перш чым нешта агучваць у сродках масавай інфармацыі, трэба добра падумаць, каб не трапіць пад пільную ўвагу розных спецслужбаў.

**– Некаторыя палітыкі кажуць: маўляў, мы ўжо ў адным кроку ад перамогі. Вам таксама ў разгар рэпрэсій мроіцца перамога на пароґзе?**

– Мне здаецца, што сёння ўжо не засталося такіх неабачлівых галасоў, якія крычаць: ура, заўтра мы пераможам! Можа быць, я памыляюся, але да перамогі зроблены сур'ёзны крок. Аднак гэта няхуткі працэс. Тое, што адбылося у 2020 годзе, – гэта проста цуд, людзі памяняліся. І я веру, што мы здолеем захаваць гэты дух еднасці.

Зараз страшны і цяжкі час. Беларускаму рэжыму дапамагае Пуцін, які падтрымлівае аўтарытарныя рэжымы. Беларусь яшчэ больш прывязваецца да Расіі, а калектыўны Захад вельмі слабы для таго, каб змагацца з Расіяй.

Аднак і не варта спадзявацца на дапамогу звонку. Свабоду Беларусі павінен здабыць сам беларускі народ.

**– Што вы думаеце наконт магчымага дыялогу з уладай?**

– Лічу, што застаюцца актуальнымі патрабаванні аб вызваленні палітвязняў і спыненні гвалту. І тады можна распачаць нацыянальны дыялог аб правядзенні свабодных і дэмакратычных выбараў. Гэта самы найлепшы шлях, бо альтэрнатывай гэтаму можа быць толькі канфрантацыя і павелічэнне супрацьстаяння.

Мірны і дэмакратычны шлях змены ўлады – самы ідэальны варыянт для ўсіх. Але для таго, каб здзейсніць дэмакратычныя пераўтварэнні, нам патрэбна яшчэ больш моцнае і салідарнае грамадства, чым мы маем зараз. Не трэба думаць, што ўлада складзе рукі.

**– Віталь, яшчэ хачу задаць асабістае пытанне. Хадзілі чуткі, што вы развяліся з жонкай. Гэта праўда?**

– Так, я ўжо даўно ў разводзе, але пры гэтым з былой жонкай у нас захаваліся добрыя стасункі. Падрабязней не хацеў бы каментаваць гэтую тэму. Бо лічу, што асабістае жыццё павінна заставацца асабістым. І ў палітыкаў таксама.

**– Але ёсць і іншае меркаванне: калі пайшоў у палітыку, будзь гатовы, што журналісты будуць цікавіцца кожным тваім крокам.**

– Не, на пытанні пра асабістае жыццё я адказваць не буду. Гэта надоўга будзе закрытай тэмай для сродкаў масавай інфармацыі. Зараз пад рэпрэсіі трапляюць не толькі палітыкі, але і іх блізкія таксама. У нас у гэтым сэнсе не так ўсё добра, як у сапраўды дэмакратычных краінах...

**Марына КОКТЫШ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Разлічвала на куш шалёны, ды не зваліліся мільёны

50-гадовая жыхарка Воранава хацела зарабіць грошай на валютнай біржы і страціла 12 тысяч рублёў. Калі жанчына зарэгістравалася на адпаведным сайце, да яе ў «памочнікі» па тэлефоне адразу ж набіліся тры «брокеры» з Расіі, якія і выманілі грошы.

Калі ўжо дагарала-тлела лета,
Касцёр недапатушаны нібы,
Дык чула ад другіх жанчын кабета:
– Хадзем жа з намі ў ягады-грыбы!
Заробіш для дзяцей сваіх «капейкі»,
Дый варта прыхарошыцца самой.
Багатым летам толькі зломак нейкі
Пластом ляжыць на печы, як зімой.
З насмешкаю адказвала жанчына:
– Не буду я цягацца з вамі ў лес!
Навошта мне лісічкі і маліна?
Я маю больш даходны інтарэс.
На біржы ён, дзе круціць люд валюту.
Там можна нават тысячу ці дзве
Сабе ў кішэнь пакласці за мінуту.
І гэткім чынам свет увесь жыве.
Той ход, яна лічыла, вельмі лоўкі,
Бо бізнес і надоўга, і ўсур'ёз.
Няхай яе бязмозглыя сяброўкі
Блукаюць паміж сосен і бяроз,
Няхай, каб мецць спадніцу і скарынку,
У хвойніку шчыруюць ад душы
І потым прадаюць грыбы на рынку
Ці ў дождж і слоту мокнуць ля шашы,
Але не для яе, разумнай, гэта
(Яе мазгі нахвальвае сусед).
Так разважала мудрая кабета
І выклала заяўку ў інтэрнэт,
Што бізнесвумен новая гатова
Пусціць у ход уласныя рублі.
(Хоць гэтыя рублі, сказаць да слова,
Па сутнасці апошнімі былі.)
Здабычу добра чуюць прайдзісветы –
Як мухі, што злятаюцца на мёд.
Калі багата грошай у кабеты,
Дык можна, так сказаць, зрабіць развод.
– Паможам, – пазванілі, – вам правесці
На біржы адмысловыя таргі.
Усё, паверце, будзе чэсць па чэсці,
Бо ў нас да здзелак схільныя мазгі.
Падумала: «Я мецьму куш шалёны,
Калі ім свой запас перавяду.
Назад, напэўна, вернуцца мільёны!»
А грошы быццам канулі ў ваду…
Вядома, спачуваюць ёй сяброўкі:
Няшчасная, як кажуць, на нулі,
Яны ж купілі для сябе абноўкі
І дзетвары да школы набылі.

***

А што напрыканцы сказаць ахвяры?
Круціць мільёны можа не любы:
Каму на біржы зарабляць даляры,
Каму – рублі, збіраючы грыбы.

### Як добра спіцца з маладой!

Мужык пражыў з «паловай» сорак год.
Затым падаў чамусьці на развод.
Адразу ж ён пабраўся з маладой,
І патлумачыў так учынак той:
– Як ноч прыходзіць, з жонкаю старой
Быў у мяне, як кажуць, гемарой:
То кроплі ёй падай, а то – таблеткі,
То фортачку закрый… І клопат гэткі
Зусім не даспадобы мне ўначы,
Абрыдла так – хоць крычма закрычы.
Вярэдзіць успамін да гэтых пор…
А з маладой інакшы каленкор!
Як сыдзе з дому вечарам яна,
Дык і няма ў кватэры да відна.
Давольны вельмі жонкай, далібог,
Бо ноч усю я сплю без задніх ног…

### За здароўе мала п'ём

Амаль што філосаф мой даўні сусед,
І ён не скрывае, што выпіць мастак.
Падчас пасядзелак, застольных бясед
Сваё захаплене апраўдвае так:
– Малая ў сярэднім працягласць жыцця,
Мы п'ём за здароўе нямала хаця.
Дык з гэтага просіцца вывад які?
Трэ больш за здароўе нам піць, мужыкі!

### Іспыт

Прафесар студэнта адчытвае строга
(І бледны ў студэнта няшчаснага від):
– Як можна, шаноўны, не ведаць нічога?
– Прабачце, я думаў, што заўтра іспыт…

### Перакваліфікацыя

Па пальцах уласных настаўніца этыкі
Лінейкаю вутнула.
Выпадак гэтакі –
Звычайны, будзённы, калі разабрацца.
Ды стала на момант настаўнікам працы…

ПО ПОВОДУ

# Олег ГУЛАК: «Это никакая не эмиграция – просто затянувшаяся командировка…»

*На минувшей неделе Верховный суд ликвидировал Белорусский Хельсинкский комитет – последнюю зарегистрированную правозащитную организацию. «Народная Воля» обратилась за комментарием по этому поводу к председателю ликвидированного БХК – юристу и правозащитнику **Олегу ГУЛАКУ**.*

**– Олег, вы надеялись на чудо? Спрашиваю, потому что у БХК были хорошие отношения со многими официальными структурами…**

– С того момента, как только появился иск Минюста, было понятно, что, вероятнее всего, он будет удовлетворен. Еще ни один иск по ликвидации общественной организации не отклонялся.

Думаю, это совсем не Минюста была инициатива. Понятно, что кто-то более сильный и, очевидно, менее умный решил, что нас надо ликвидировать. Наоборот, если у Минюста и было с кем-то хорошее взаимодействие из правозащитных организаций, то это как раз с БХК. И в этом смысле мы не были врагами. Наше отношение к ним никогда не было враждебным – мы хоть и критиковали, но всегда были конструктивными.

К тому, что происходит, стараемся относиться философски. Мы остаемся – просто будем работать без официального статуса. Ведь свобода ассоциаций в понимании международных стандартов – это именно ассоциации, а не регистрация. Не регистрация делает организацию, а люди. Юридическое лицо – да, оно появляется с момента регистрации, а организация – это люди, которые объединились для достижения общих целей.

Мы понимаем, конечно, что последствия у этого решения есть. Но мы видим и в целом картину, в которой находится страна. Будем учитывать все факторы, чтобы людей не подставлять. И продолжим работу.

Сам факт ликвидации нашей организации только подчеркивает глубину проблем с правами человека в стране и важность правозащитной работы.

**– Сейчас, без официального статуса, работать точно станет сложнее.**

– Работать уже стало труднее. И намного. Но опять же: мы никогда не были в тепличных условиях. Я видел коллег из других секторов, которые были просто ошарашены, когда их организации ликвидировали. Для них небо упало на землю. Для нас большой трагедии нет, всё осталось примерно так, как было.



**– Лукашенко недавно сказал: «*Настало время принять закон и прописать, что наше гражданское общество – это не НПО, НКО и прочая дрянь… А что у нас есть общественные организации. И прямо прописать, какие. Что у нас есть профсоюзы, БРСМ, что у нас есть ветеранские, женские организации. Те, которые показали себя как настоящее гражданское общество. Они массовые и они являются опорами нашего общества*». Но возьмут ли те же профсоюзы на себя функции правозащитников?**

– Конечно, никто не заменит независимый правозащитный сектор, который сложился в нашей стране. Государство и не пыталось создать, грубо говоря, параллельных правозащитников, как это было, например, с союзами журналистов, писателей. Не знаю, как они введут омбудсмена по правам человека, о котором идет речь в проекте Конституции, – тут много непонятных вопросов.

Тот, кто придумал всех ликвидировать, не думает о том, что всё равно надо будет как-то дальше работать с обществом, решать проблемы. Власть считает, что нужно подавить любой протест, инакомыслие и что все проблемы из-за свободы. На наш взгляд, общество наконец перестало мириться с тем, что его не считают субъектом. Нужно работать с обществом и выстраивать нормальные механизмы взаимодействия.

**– В «Фейсбуке» встретила такое мнение: если все независимые организации уничтожили, сейчас нужно вступать в те же официальные союзы писателей, журналистов и гнуть там свою политику.**

– Мне кажется, мы уже шли по этому пути. В последние годы вся концепция постепенного вовлечения была построена на этой логике. Мы взаимодействуем с властью, пределы невозможного отодвигаются, приходит понимание, что это не только нестрашно, но еще и всем полезно. И потихоньку происходит трансформация людей и системы управления. Так всё частично и шло, пока вопрос не стал упираться в смену власти. Ну и дальше… Это большой вопрос – можно ли сейчас вернуться к тому, что было. Ведь и мы понимаем, что у этой трансформации есть очень приземленный предел, и система еще более четко понимает, что ей грозит. Потому что выстроенная система – нежизнеспособна и неконкурентоспособна. И то, что власть делает, – предела жестокости пока не видно…

**– Вы уже некоторое время находитесь не в Беларуси. Собираетесь возвращаться?**

– Конечно. Но только когда будет понятнее, куда и как.

Несмотря ни на что, мы остаемся белорусской организацией. Работаем на те же целевые группы, ищем, как сохранить связи и контакты. Большая часть наших людей остается в Беларуси, и при первой же возможности я тоже вернусь.

Это никакая не эмиграция – просто затянувшаяся командировка.

**– Морально вы были готовы к такому развитию событий?**

– Я когда-то не мог себе представить, что такое возможно в принципе – всё то, что у нас сейчас происходит. Что юристы так начнут чудить. Что настолько будет не до законов.

Я помню разговоры с людьми, которые сейчас в системе власти, – как раз о том, насколько возможна трансформация власти. Я в нее не очень верил, но меня убеждали, что всё возможно. Хотелось бы сейчас поговорить с этими людьми…

На мой взгляд, сейчас самое главное – что происходит внутри страны. Какие настроения у людей? Насколько люди запуганы? Готовы ли к потенциальным реформам или будут нарастать взаимная агрессия и противостояние и всё это расколет страну и сделает реформы невозможными? Это очень важные вопросы, на которые нужно знать точные ответы…

**Марина КОКТЫШ.**

**На фото: Олег Гулак и Алесь Беляцкий, который с 14 июля находится в следственном изоляторе.**

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

## Анатоль Шумчанка – у рэанімацыі

*Былому лідару прадпрымальнікаў учора рэзка стала горш. Каранавірус даў ускладненне на сэрца.*



*«Пераводзяць у рэанімацыю па сэрцы!* – паведаміў ён. – *Усе астатнія паказчыкі здаровыя. Лекар так і сказаў – здаровы. Будуць УГД сэрца рабіць. Без кіслароду вельмі складана дыхаць. Вось тое кaварства каранавіруса, пра якое кажуць дактары: кавід вылечылі, а памерці можна ад ускладненняў».*

Анатолю Шумчанку стала горш літаральна за ноч, бо яшчэ пазаўчора усе паказчыкі былі больш-менш у норме.

*«Рэзкае пагаршэнне, зноў пад кіслародам*, – напісаў на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку» Анатоль ўчора раніцай. – *Усё вельмі дрэнна. Вось такія арэлі. Лекары робяць усё магчымае. Паспаў без кіслароду, раніцай кашаль з крывёю і здушванне ў грудзях. Увогуле аптымізму ў мяне ўсё менш і менш…»*

У бальніцы Анатоль Шумчанка знаходзіцца ўжо 22 дні – яго забралі з каранавіруснай пнеўманіяй на «хуткай». Жонка і маці таксама хварэлі, але ў іх кавід працякаў у больш лёгкай форме. Маці Анатоля, між іншым, зрабіла прышчэпку ад віруса.

На выхадных быломy лідару прадпрымальнікаў прызначылі антыбіётыкі і адмянілі выпіску, на якую ён вельмі спадзяваўся, – не вельмі добрымі аказаліся вынікі чарговай камп'ютарнай тамаграфіі.

Амаль з першага дня ў бальніцы Анатоль Шумчанка знаходзіцца ў кіслароднай масцы: *«Без яе дыхаць амаль не магу».*

*«Беражыце сябе і не хварэйце, сябры мае*, – гаворыць Шумчанка. – *І вялікі дзякуй урачам і медсёстрам – героям, якія нас лечаць. Яны рызыкуюць кожную секунду, і ад таго іх праца неацэнная».*

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

SOS!

***Паводле звестак праваабаронцаў, у Беларусі налічваецца ўжо больш за 700 палітвязняў.***

ПЕРАСЛЕД

## Аляксандр Івулін застаецца за кратамі

*Журналісту, блогеру і футбалісту «Крумкачоў» ізноў працягнулі тэрмін утрымання пад вартай.*

**Аляксандра Івуліна** падазраюць па арт.342 КК РБ (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх). Яму можа пагражаць да трох гадоў турмы.

Аляксандра затрымалі 3 чэрвеня. Пасля адміністрацыйнага арышту Івулін на свабоду не выйшаў.

Дарэчы, днямі ў Друскінінкаі журналісты з Літвы, Латвіі, Малдовы, Арменіі і Польшчы правялі турнір у падтрымку беларускіх калег, якія трапілі ў няволю.

Адзначым, што на гэты момант у зняволенні ў Беларусі знаходзяцца 29 прадстаўнікоў мас-медыя.

**Віктар ШПАК.**

ФАКТ

## Беларусь выходзіць з пагаднення аб рэадмісіі з Еўрасаюзам

*Праект закона «Аб прыпыненні дзеяння Пагаднення паміж Рэспублікай Беларусь і Еўрапейскім Саюзам аб рэадмісіі асоб, якія знаходзяцца без дазволу» ўхвалены Палатай прадстаўнікоў 4 кастрычніка.*

Як нагадвае *interfax.by*, гэты законапраект у верасні ўнёс у парламент **А.Лукашэнка**. Ён падрыхтаваны ўрадам як адказ на дзеянні, прынятыя ЕС у дачыненні да Беларусі. «*Пагадненне вызначае механізм перадачы, прыняцця і вяртання асоб, якія парушылі ўмовы ўезду, знаходжання і пражывання*», – дадае прэс-служба прэзідэнта.

Міністр замежных спраў **Уладзімір Макей** на пачатку ліпеня адказаў на пытанне, ці пакідае Беларусь для сябе свайго роду фортку, кажучы менавіта аб прыпыненні дзеяння пагаднення, а не яго парыве, каб у выпадку нармалізацыі адносін вярнуцца да ўдзелу ў ім.

*«Мы заўсёды пакідаем фортку ў першую чаргу не для сябе, а для нашых заходніх партнёраў*, – адказаў Макей. – *Мы лічым, што нельга разбураць за сабой усё і ўся, пакідаць выпаленую зямлю, як гэта спрабуюць рабіць нашы еўрапейскія партнёры. Мы заўсёды былі і будзем настроены на спакойны, канструктыўны лад. І мы зацікаўлены, каб усе пытанні вырашаліся неканфліктна дыпламатычным шляхам, а не такім чынам і спосабам, як гэта спрабуюць рабіць сёння нашы партнёры».*

КАМЕНТАРЫЙ

## «Сцэнарыяў цяпер – маса…»

*Якія наступствы мае рашэнне наконт выхаду з пагаднення аб рэадмісіі з Еўрасаюзам, якое прынялі дэпутаты? Вось што думае на гэты конт палітолаг **Юрый Шаўцоў**.*

«Цяпер выштурхоўванне бежанцаў з краін ЕС назад праз мяжу ў Беларусь стане нелегітымным, – *імгненна адрэагаваў палітолаг на навіну ў сваім тэлеграм-канале.* – Пакуль гэта было больш ці менш законным.

У міграцыйным крызісе гэта прывядзе да некаторых наступстваў. Тут магчыма ўсё:

– стварэнне вялікіх або вялікай колькасці лагераў бежанцаў на нейтральнай паласе або на тэрыторыі краін ЕС ля мяжы з Беларуссю;

– жорсткія меры па непрыняцці бежанцаў на тэрыторыю Беларусі з боку беларускіх памежнікаў;

– прарывы ў Польшчу, Літву, Латвію вялікіх калон бежанцаў пры немагчымасці краінам ЕС завярнуць іх назад у Беларусь.

Сцэнарыяў цяпер – маса…»

